# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 19 (301) — Нядзеля, 6 травеня 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10

# *Божай Міласьцю*

## *Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне*

**ДА УСЯЧЭСНЭГА ДУХАВЕНСТВА, ПРЭПАДОБНАГА МАНАШАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБІВЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ.**

## *Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне*

# *Хрыстос Уваскрос!*

«УВАСКРОС ІСУС ад гробу, як і прадсказаў, даруючы нам жыцьцё вечнае й вялікую міласьць» (Вялікодны Канон).

**УЛЮБЛЕНЫЯ Й ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ!**

Мы цешымся й радуемся, калі цемру доўгае ночы пачнуць асьвятляць праменьні ўзыходзячага сонейка. Але, ці мы можам уявіць сабе тую радасьць нявымоўную, якую перажылі душы старазаветных праведнікаў у пекле, калі ў гэтай страшнай цемры зазьзяла цудоўнае Боскае Сонейка, калі туды зыйшоў Хрыстос, Спасіцель наш, калі УВАСКРОС ІСУС ад Гробу й дараваў жыцьцё вечнае ў Раю тым, што так доўга чакалі на Яго! Бо-ж сьв. Пісьмо апавяшчае нам: «І магілы расчыніліся, і многа целаў памершых сьвятых уваскрэсла! І, выйшаўшы з магіл, па Ўваскрасеньні Яго ўвайшлі ў сьвятое места і паказаліся многім» (Мц. 27, 52—53). Бо ХРЫСТОС УВАСКРОС, сьмерць і пекла перамог, і адкрыў дзьверы Раю для ўсіх, хто толькі ўвераваў у Яго.

Такую вялікую Любоў і Ласку Сваю праявіў Хрыстос да ўсіх людзей, выконваючы волю Айца Сваяго Нябеснага. Ён Сваё Прачыстае Цела дазволіў падняць на Крыж, каб Сваею Чэснаю Крывёю выбеліць увесь род людзкі ,перамагчы сьмерць і пекла, дараваць нам жыцьцё вечнае ў Царстве Славы Свае! Ён злучыўся з нашаю людзкаю прыродаю, каб ачысьціць і ўваскрасіць яе! Нашая сьмерць перайшла на Яго, а Ягонае жыцьцё вечнае на нас! Прыняўшы сьмерць як Чалавек, Хрыстос зыйшоў у пекла як Бог і тут перамог найбольшае нашае зло — сьмерць, гэтую ўладу шатана над людзьмі. Так вось Спасіцель наш скрышыў галаву гэтаму адвечнаму ворагу нашаму. Параможаны на Галгофе, узяўшы на Сябе грахі й немачы нашыя, Ён на Трэйці Дзень устаў у сіле й славе Сваей як прадвечны Бог, як Пераможца й Спас наш!

Так споўнілася абяцаньне Бога Айца яшчэ Адаму й Еве ў Раю (І Майс. 3, 14). Зазьзяла Боскае Сонейка ў цемры, зьніклі зло й сьмерць, адкрыліся дзьверы Раю для людзей, Сын Божы ў нашым людзкім целе, як Першы з нас Уваскрос, сеў праваруч Бога Айца на Пасадзе Яго й усіх нас зь любоўю заклікае да Сябе! Бо Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! Запраўды ўзьнёсься на Неба да Айца Свайго! Галгофа ня была канцом, як гэтага спадзяваліся ворагі Спасіцеля нашага, наадварот, яна стала ПАЧАТКАМ нашага гонару, нашае славы й радасьці, нашага шчасьця вечнага разам зь Ім!

Вось чаму Сьветлае Хрыстовае Уваскрасеньне нашая радасьць бясконцая! Вось чаму Уваскросшы Спасіцель наш зьявіўся Жонам Міраносіцам і сказаў ім: Радуйцеся! (Мц. 28, 9). Вось чаму Ангел зьявіўся Маці Божай і радасна ўсклікнуў: «Радуйся, Дзева, радуйся; багаслаўленая, радуйся прэпраслаўная: Твой бо Сын УВАСКРОС на трэйці дзень ад гробу!» (Вялікодная Сьціхіра). Вось чаму й нашая радасьць сяньня бязьмежная, і ў гэтай радасьці сваей мы кажнаму выбачаем, кажнага як брата абыймаем і натхнёна прамаўляем: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Бо мы ведаем, што Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС, запраўды жыве з намі й вечна жыць будзе, як і сказаў: «І вось Я з вамі ўва ўсе дні да сканчэньня веку, амінь» (Мц. 28, 20); Ён праявіў Боскую сілу й славу Сваю ўжо на зямлі: у цудах Сваіх, на гары фаворскай, на Крыжы, у Сваім Уваскрасеньні, у пекле й у Ўвазьнясеньні на Неба. Цяпер-жа прабывае ў Сваей Славе Нябеснай, як Валадар Неба й зямлі. І гэтая Слава Яго, як вялікага Бога й Спаса нашага, асяніць усю ўсяленную ў часе Ягонага Другога Прыходу, і радасьць нашая тады будзе ўжо поўная, бязьмежная й вечная, калі толькі мы будзем мець Яго ў сэрцах сваіх тут на зямлі.

Таму, любыя дзеці нашыя, усюды й заўсёды будзем старацца, каб Ён, Хрыстос, Бог наш, стала прабываў у сэрцах нашых, бо-ж Ён: нашае Уваскрасеньне й Жыцьцё (Іо. ІІ, 25), бо-ж Ён нашая радасьць, пацеха, сіла й Перамога! Зь Ім няма смутку, няма бяды! Зь Ім заўсёды лёгка перанясем усе беды й цярпеньні нашыя, жыватворчаю сілаю Яго пераможам усіх ворагаў Яго й нашых, бо: «Пабожныя возьмуць зямлю ў валаданьне і жыць на ёй будуць навекі» (Пс. 38, 29). Таму, любыя суродзічы нашыя, цешцеся й радуйцеся ўсе: і вы на выгнаньні, і вы пакутнікі на Бацькаўшчыне, на катаргах, у пушчах і лясох, усе, усе, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Усячэсныя Айцы й увесь наш пакутны Народзе Беларускі! Зь любоўю Божаю ў сэрцах нашых вітаем усіх вас зь вялікаю, сьветлаю радасьцю Неба й зямлі — УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ! Ужо праменьні Любові й Ласкі Уваскросшага Госпада нашага Ісуса Хрыста й Ягоная Жыватворчая сіла Перамогі над злом, няпраўдаю й несправядлівасьцю пачынаюць зьзяць над пакутнаю Зямелькаю нашаю! Ужо цемра злое няволі пачынае праясьняцца, ужо Уваскросшы Спасіцель наш гаворыць нам: Толькі веруйце, цьвёрда веруйце, ані ня сумлявайцеся, і неўзабаве ўваскрэсьне вашая ўкрыжаваная й у гроб паложаная, любая Маці-Беларусь!

Таму, Браты й Сёстры, палымянна любеце Яго, Бога й Спаса нашага і — Радуйцеся, бо Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. Амінь.

**СЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ**
Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**СЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў БАПЦ на Чужыне.

**Дана Году Божага 1956**
**месяца травеня**
**Аўстралія-Амэрыка.**



**Сафійскі сабор у Полацку пасьля перабудовы ў XVIII ст. (Пабудаваны між 1044 і 1066 гг.)**

# Пасьля юбілею...

Тое, што не чытачы створаныя для газэты, а газэта для чытачоў, зьяўляецца, бязумоўна, аксіёмай. А адгэтуль выцякае права чытача на крытыкаваньне газэты. Наадварот, добра й салідна выкарыстанае чытачамі права на крытыку дапамагае самой газэце. Заўвагі, засьцярогі й пажаданьні разумнае крытыкі зьяўляюцца для газэты неабходнымі й карыснымі праваднікамі, якія памагаюць ёй арыентаваць свой шлях і разам з гэтым, асягаць стаўленыя мэты.

Свайго часу, «Бацькаўшчына» зьвярнулася да сваіх чытачоў з заклікам прысылаць свае заўвагі, пажаданьні й думкі. Прыпамінаецца, што тады шмат чытачоў адклікнулася на гэта, і на бачынах нашае газэты даўжэйшы час зьмяшчаліся гэтыя выказваньні. Гэта была крытыка ў поўным значэньні гэтага слова: тут ганілася адно, хвалілася іншае, даваліся новыя прапановы й парады, з чаго нашая газэта бязумоўна не магла не скарыстаць.

Газэта бруковая, што гоніцца толькі за сэнсацыяй і якая, маючы наўвеце часамі нізкія людзкія інстынкты, падае на сваіх бачынах непераборлівую страву для заспакойваньня іх, ніколі не адважыцца крытыкаваць свайго чытача, бо для яе чытач — гэта не аб'ект, на які яна мае рабіць пазытыўны ўплыў, а проста крыніца даходу.

Інакш справа прадстаўляецца ў нас. Ужо з самага факту, што мы эміграцыя палітычная, кансэквэнтна выцякаюць і тыя прынцыпы, якімі кіруецца эміграцыйная прэса. Выдавец газэты (ня важна ці гэта асоба ці арганізацыя) на сваё выданьне глядзіць не як на крыніцу даходу, якая зрэшты ў эміграцыйных умовах ня можа ёю быць, але як на сяродак узьдзейваньня на сваіх чытачоў, накіроўваючы іхныя думкі й высілкі да тае мэты, якую ставіць перад сабой эміграцыя.

Зразумела, што з вышэй прыведзенай асаблівасьці эміграцыйнае прэсы выцякае права на крытыку сваіх чытачоў. Чытачу гэта можа не падабацца, але ў нашым выпадку газэта не павінна з гэтым лічыцца, хоць-бы праз гэта траціла таго ці іншага падпісчыка. Вось-жа карыстаючы з гэтага права і адсьвяткаваўшы свой юбілей 300-м нумарам, зь якога чытачы даведаліся крыху аб жыцьці, праблемах і буднях нашае газэты, мы хочам сяньня кінуць крытычным вокам на тых, што час ад часу крытыкуюць нас. Гэта, фактычна, ня крытыка нашых крытыкаў, але спроба паказаць на тыя нездаровыя зьявішчы, якія ў нас, нажаль, ніяк ня могуць вывесьціся.

Усіх, што нас крытыкуюць, можна было-б падзяліць на чатыры наступныя групы:

1) Тыя, якія запраўды разумеюць што такое крытыка і трымаючыся ейных правілаў, выказваюць свае пагляды. Гэта перадусім прынцыповага характару, як, скажам, заўвагі ў дачыненьні да ідэялягічнага зьместу газэты, парады парушаць тыя ці іншыя праблемы, заўвагі да разьмеркаваньня самога матарыялу ў газэце й г. д. З гэтае крытыкі газэта толькі карыстае, але, нажаль, у нас крытыкаў такога характару вельмі-ж і вельмі мала.

2) Тыя, што маючы ўсе дадзеныя, каб належаць да першай групы, засьлепленыя сваёй амбіцыяй ці «абражанай годнасьцяй», шукаюць дзіркі ў цэлым. Ім чамусьці здаецца, і яны навет асьмельваюцца даводзіць, хоць ня маюць на гэта довадаў, што «Б-на» стаіць за г. зв. непрадрашэнства. Лёгіка падобнага даводжаньня настолькі дзяцінная, што мы навет ня лічылі за патрэбнае пісаць аб гэтым. Яны разумуюць так: «Б-на» падтрымоўвае ворганы БНР, БНР належыць да Парыскага Блёку, Парыскі Блёк шукае шляхоў да супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам для Вызваленьня ад Бальшавізму, Амэрыканскі Камітэт стаіць на непрадрашэнскай лініі, а значыцца — і «Б-на» стаіць на гэтым прынцыпе. Вось вывад! І паспрабуйце пераканаць такога. Таго, што «Б-на» рэгулярна выступае супраць непрадрашэнства і раскрывае расейскі імпэрыялізм — гэткі крытык ня бачыць. Але папытаемся, ці знайшоў ён у «Б-не» хоць адзін пасаж, які-б быў довадам непрадрашэнства газэты.

3) Гэта нашыя, якіх хтосьці назваў «ватажкі». Энэргічныя, актыўныя, але неталерантныя. Што яны думаюць — гэта канчатковая праўда, закон. Іншыя пагляды — зрада беларускае справы. На свайго «праціўніка» яны пішуць у «Б-ну» ліст, у якім апрача жоўці нічога няма. За незьмяшчэньне газэта з «найпаважнейшага беларускага воргану» робіцца «прапольскай», «прарасейскай», «прасавецкай» і пра-..., пра-... «газэцінкай», якую аўтар не жадае больш чытаць. Сюды хіба можна аднесьці і тыя, дзякаваць Богу, нешматлікія галасы, што закідаюць нам пракаталіцтва, правуніяцтва, антыправаслаўе, антырэлігійнасьць і г. д. Усё гэта прадукт неталерантнасьці ці рэлігійнага фанатызму, і як такі, бязумоўна, зь белага робіць чорнае й наадварот. Абсурдальнасьць падобных закідаў чытач бачыць сам, калі ўважна й рэгулярна чытае газэту.

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

***Усіх праваслаўных Беларусаў вітаем зь вялікім Сьвятам УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТА!***

***Хрыстос Уваскрос***
***Уваскросьне й Беларусь!***

# Расея — сусьветная небясьпека

## Наш адзіны шлях абароны*)

Гэтак завецца брашура Джона Ф. Стуарта, старшыні Шкоцкае Лігі для Эўрапэйскае Свабоды. Аўтар брашуры, як і Шкоцкая Ліга — ужо ведамыя нашаму эміграцыйнаму грамадзтву з свайго правільнага падыходу да праблемаў паняволеных бальшавізмам народаў. Нас ня можа ня цешыць факт, што на Захадзе ёсьць усё-ж людзі й моцныя арганізацыі, якія, разумеючы нас, і здаючы сабе справу з усяе важнасьці ролі паняволеных расейскім бальшавізмам народаў у змаганьні Захад-Усход, стараюцца таксама усьведамляць і пераконваць сваіх суродзічаў аб неабходнасьці зьмены дасюлешніх заскарузлых традыцыйных паглядаў на ўсходнюю небясьпеку.

Каб пазнаёміць нашых чытачоў з гэтай карыснай брашурай, мы і прывядзем тут колькі вытрымак зь яе, так як памеры брашуры не пазваляюць поўнасьцяй зьмясьціць яе.

Раскрыўшы на пачатку ўсю цынічнасьць савецкае «палітыкі ўсьмешак» і ейныя мэты, аўтар, апіраючыся на гістарычныя дадзеныя, даводзіць, што мэты й мэтады савецкія нічым ня розьняцца ад калішніх царскіх. Пры гэтым аўтар цытуе цэлы шэраг дакумэнтаў, зь якіх, бязь ніякіх камэнтараў, кажны можа бачыць, што тая Расея, аб якой сяньняшнія расейскія шавіністыя выказваюцца як аб найбольш прагрэсыўнай, культурнай, гуманнай, у запраўднасьці была ў гэтых дачыненьнях годным арыгіналам сяньняшняе савецкае копіі.

Вось, прыкладам, цытаваны аўтарам ліст караля Жыгімонта Старога да ангельскае каралевы Елізабэты ў 1569 г.: «Дарагая Сястра, Маскоўшчына — гэта агульнапрызнаны вораг усіх пад сонцам свабодаў і яна з дня на дзень урастае ў сілу. Мы ведаем, што Ваш Маестэт зусім не падазрае зьверства гэтага ворага, ягонае сілы й тыраніі, якой ён валодае сваімі падданымі. Дзеля гэтага, мы, што ведаем і разумеем яго лепш чымся іншыя, будучы ягонымі суседзямі, перасьцерагаем вас і іншых хрысьціянскіх сувэрэнаў не ахвяроўваць свайго гонару, свае свабоды й саміх сябе ды жыцьця сваіх падданых для такога жорсткага й барбарскага ворага.»

Далей аўтар прыводзіць словы князя Адама Чартарыскага, які, будучы сябрам расейскага імпэрскага двара, добра арыентаваўся ў расейскіх справах і мэмуары якога былі апублікаваныя ў 1888 г. Ён пісаў: «У сваім інстынкце заваёваў яны (Расейцы) ўжывалі ашуканства й гвалт пачарзе ды змаглі з рэдкай хітрасьцяй пабольшыць сваю тэрыторыю коштам суседзяў. Усе мэты, якія ставіць перад сабой Расея, гэта нічога іншага, як падпарадкаваньне большае часткі Эўропы й Азіі... Бязьлітасныя амбіцыі Пятра (заваёва сьвету) усё яшчэ ляжаць у глыбіні **кажнага расейскага сэрца».**

Пасьля яшчэ колькіх цытатаў ідуць выказваньні самога аўтара.

«... Трэба зацеміць, — піша Джон Ф. Стуарт, — што чыста расейскі народ, «Вялікарусы», або больш правільна Маскоўцы, мусяць заўсёды мець уладара, хоць-бы невядома наколькі брутальнага й дзікага, якога яны могуць абагаўляць; яны абагаўлялі Леніна, бо той ясна паказаў, што хоча заваяваць сьвет для ідэі, якую ён называў камунізмам, а якая ў запраўднасьці зьяўляецца толькі старым расейскім імпэрыялізмам пад новым імем; яны абагаўлялі Сталіна магчыма ў куды большых памерах чымся іншага тырана, таму, што ён пабольшыў расейскую тэрыторыю за карацейшы час, чымся папярэднікі. Яны будуць абагаўляць Булганіна, Хрушчова, Жукава, або хоць каго іншага, хто забівае іншых прэтэндэнтаў і стварае дыктатуру...»

«Чаму наш урад, нашыя палітыкі, наша прэса ня кажа людзям аб тым, што азначае расейская дамінацыя? Яна-ж не азначае ўсьмешак, узаемных візытаў флёты, узаемных візытаў фармэраў, навукоўцаў, сьвятароў і г. д. Гэта ня вымены візытамі турыстых, так як гэтыя едуць у Расею старанна вызначанымі шляхамі ды пад цесным наглядам. Гэта не пабольшаньне гандлю Усход-Захад, бо навет тое, што мы называем нестрагэгічнымі таварамі, пры экспарце ў Расею зьяўляецца стратэгічным, навет — сялёдкі. Уся расейская індустрыя працуе для ваенных мэтаў, а імпартаваньнем харчовых ці іншых прадуктаў выйграная працоўная сіла, скарыстоўваецца ў цяжкай (ваеннай) індустрыі.»

«Што-ж павінна быць зроблена, каб запабегчы гэтую страшную зьяву, якая насоўваецца на нашу краіну? Пробваліся канфэрэнцыі й падпісываліся з Расеяй умовы, якіх яна аднак ніколі не датрымоўвала і няма надзеі, каб яна датрымала іх у будучыні. Мы мусім памятаць перасьцярогі Літвінава, што чым больш канцэсіяў даецца Расеі, тым больш яна дамагаецца. І прынцып «чым больш маеш тэрыторыі, тым бесьпячней чуешся» зьяўляецца характэрным для кажнага Расейца ці Маскоўца ўсіх часоў.»

«Сіла Расеі была заўсёды ўжываная для мэтаў зла: прыгнятаньня, масакраваньня, зьнішчаньня апанэнтаў. Ясна, што адзіны шлях, каб закончыць з гэткай пэрспэктывай для вольнага сьвету, гэта парваньне тых сувязяў, якімі зьвязаныя нерасейскія народы з Масквой.»

«... Хрушчоў рабіў прапагандовае падарожжа па Індыі і далёкім Усходзе, паказваючы ўсюды вялікі дабрадзейны серп і молат. У прамовах ён дзіка атакаваў г. зв. «каляніялізм», паняволеньні ці дамінаваньне аднае краіны над іншай. Ня могуць лідары Захаду пачаць дамагацца ўжыцьця гэтае дактрыны ў дачыненьні да народаў паняволеных Масквой і дамагацца для іх свабоды мець урад такі, які самі хочуць? Легальны пачатак можа быць зроблены з Украінай і Беларусяй. Ад пакаленьняў Расея даводзіла, што ніколі ня было і няма апрычонай украінскай ці беларускай нацыі. Але-ж цяпер яна ня можа рабіць гэтага далей, бо-ж яна сама дамагалася прыняцьця гэтых дзьвюх краінаў у поўнапраўныя сябры Задзіночаных Нацыяў.

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

*Russia, the World's Peril. Our Only Way of Defence, by John F. Stewart, Scottish League for European Freedom, Edinburgh, February 1956.

# Адна культура — лек, другая — атрута

У цікавай зацемцы праз шырокую дзейнасьць беларускіх майстроў у Маскоўшчыне ў XVII ст. («Беларускія майстры ў Маскоўшчыне» — «Б-на» № 16/298 з 1956 г.) сп. А. Будзіч кажа, што «сьвятло культуры й цывілізацыі йшло ў Маскоўшчыну зь беларускае зямлі, **несенае ў добрай веры** (падчыркненьне мае — М. Пр.) сынамі беларускага народу». Культура «несеная ў добрай веры», значыцца, несеная самахоць. Здаралася й гэтак. Але ня было гэтак у тэй вялізнай масы беларускіх майстроў, праз каторых кажаць ў зацемцы. Апынуліся яны ў Маскоўшчыне ў часе вайны Беларусі з Маскоўскім гаспадарствам ў 1654—1667 г. г. не самахоць, але былі сілком вывезеныя маскоўскім акупантам. Беларускія майстры, ды не адны майстрове, былі ў гэным часе вывожаныя да Маскоўшчыны й прынуканыя рабіць на Маскоўцаў зусім чыста так, як па Другой сьветнай вайне былі вывезеныя да СССР розныя нямецкія спэцыялістыя.

У тэй-жа зацемцы аўтар кажа: «Цяжка запярэчыць узаемны ўплыў беларускае й расейскае культураў, як цяжка наагул пярэчыць узаемнасьці культурных уплываў двух суседніх народаў». Культура рэч дадатная і, калі гэтак кажацца, дык кажны зразумее, што й расейскія культурныя ўплывы ў Беларусі мелі дадатны характар. Ня было, адылі, так. Найперш трэба агульна зацеміць, што Беларусы ніколі не накідалі Маскоўцам, як і іншым, прынукаю свае культуры, наадварот, як і ў прыпадку з майстрамі, Маскоўцы вельмі часта прынукалі Беларусаў пашыраць свае ўменьні ў Маскоўшчыне. Прымеж таго Маскоўцы прынукаю шырылі сваю культуру ў Беларусі, галоўна мову і зь ёю літаратуру ды хвальшаваную гісторыю, адначасна забараняючы культуру беларускую. Мэта гэтага шырэньня было — забіць беларускае нацыянальнае сьвядом'е, узгадаваць сваёй культураю Беларусаў так, каб яны зрадзілі самым сабе і пачалі ўважаць сябе за Расейцаў, каб сталіся расійскімі парабкамі, проста гноем дзеля маскоўскага росту.

І найлепшая рэч можа быць лекам і атрутаю, залежна ад таго, як яе ўжыць. Дыкжэ культура беларуская прычынялася да развою Маскоўшчыны, а культура расейская забівала беларускае нацыянальнае жыцьцё. Уся чыста прыношаная да Беларусі расейская культура мела сваёй мэтаю беларускую сьмерць. Але каб зь лепшае рэчы, з высокае навуковае ўстановы Беларусы не скарысталі пасвойму, на сваю карысьць, дык зачыніўшы ў Беларусі ўсе высокія школы, Расейцы не дазволілі Беларусам і ніводнае высокае школы расейскае. Да 1921 на ўсёй вялізарнай тэрыторыі беларускай, як на захопленай у 1772, 1793 і 1795 гадох у часе падзелу Беларусі, так і на адарваных уперад часьцях ад беларускае цэласьці ня было ніводнае высокае школы. Але закладалі ў Беларусі расейскія пачатныя школы дзеля масавага абрусеньня ды настаўніцкія й духоўныя сэмінарыі і настаўніцкія інстытуты дзеля ўзгадаваньня янычараў.

Тое, што расейскія камуністыя робяць цяпер у Беларусі ёсьць далейшым развоем таго, што Расейцы рабілі у нас уперад.

За такую культуру-атруту мы ня можам быць удзячныя Расейцам, наадварот, маем яе ненавідзець і атрасацца зь яе. Тое самае павінны мы рабіць і з падобнай культураю польскай у Беларусі.

**Максім Прынскі**

# Камуністыя распальваюць арабска-ізраэльскі канфлікт

Сьледам за першай Палестынскай вайной у 1948-49 гадох, апошнімі тыднямі штораз павялічваецца небясьпека выбуху другой вайны між арабскімі дзяржавамі й Ізраэлем.

Граніцы Ізраэля ператварыліся ў сапраўдныя франтавыя лініі, гарматы й кулямёты не змаўкаюць, па абодвух бакох зьяўляецца ўсё больш ахвяраў. Яшчэ больш пагрозьлівым, чымся гэтыя крывавыя сутычкі, зьяўляецца агульны настрой нацыяналістычнай і расавай нянавісьці ды ваеннай гісторыі, які пачынае ахопліваць народы Блізкага Ўсходу. Небясьпека ляжыць у тым, што калі такая вайна пачнецца, ніколі ня можна сказаць, каго яна ўцягне ў сябе й чым скончыцца. На працягу доўгіх гадоў спэцыяльная Мірная камісія Задзіночаных Нацыяў прыкладала шмат высілкаў, каб між арабскімі дзяржавамі і Ізраэлем былі датрыманыя ўмовы замірэньня з чэрвеня 1949 году. Пагроза выбуху вайны так узрасла, што выконваючы тэрміновае даручэньне Рады Бясьпекі Задзіночаных Нацыяў, генэральны сакратар гэтае арганізацыі Гамэршыльд сам праводзіць гэтымі днямі перамовы ў сталіцах Блізкага Усходу ў справе выратаваньня міру. Аднак, мала хто ў сьвеце верыць у посьпех мірнае місіі Гамэршыльда.

Няма сумлеву, што ў гэтым падпальваньні Блізкага Ўсходу дзеіць рука крамлёўскай камуністычнай верхавіны. Палестынскае замірэньне 1949 году стварыла паміж Ізраэлем і арабскімі дзяржавамі стан прыблізнай мілітарнай раўнавагі. Ніводзін бок ня мог разьлічваць на вырашальную перамогу, і вайна губляла сэнс. Гэтая раўнавага была парушана з мамэнту, калі савецкі рэжым стаў на бок Арабаў і апошнімі месяцамі пачаў азбройваць Эгіпт і Сырыю.

Умова паміж камуністычным блёкам і Эгіптам у справе дастаўкі савецкай зброі для Арабаў вельмі нагадвае сваім характарам пакт Рыбэнтроп—Молатаў у верасьні 1939 году, якім фактычна пачалася другая сусьветная вайна. Ідэя гэтага пакту палягала для Крамля ў тым, каб забясьпечыць Гітлеру плечы з Усходу ды загнаць яго ў доўгую й вычарпальную вайну з Захадам. У 1939 годзе Сталін абяцаў таксама Гітлеру, што ў часе вайны будзе даваць яму харчы, нафту, сыравіну й іншае. Відавочны плян Крамля быў разьлічаны на тое, што калі ваюючыя бакі зьнясіляцца вайной, камуністыя прыбяруць урэшце да рук і адных і другіх.

У сучасны мамэнт, колькі-б камуністыя ні гаварылі пра іхнае жаданьне міру й колькі-б мільярдаў ня выкідалі на гэтак званую мірную прапаганду, сьведамае правакаваньне й выкарыстоўваньне войнаў для мэтаў камунізму, было заўсёды й застанецца надалей аднэй з галоўных мэтаў камуністычнай дыктатуры. Колькі-б Хрушчоў і Буганін ня сьцідалі з п'едэсталу Сталіна, яны й надалей засталіся адданымі выканаўцамі запаветаў ленінізму-сталінізму. У сваім творы «Мілітарная праграма пралетарскай рэвалюцыі» Ленін пісаў у 1917 годзе: «сацыялізм, які перамог у ваднэй краіне, цалкам ня выключае наагул усіх войнаў. Наадварот, ён іх дапушчае... Праблема, перад якой стаіць пралетарыят, ня выключае войнаў, але палягае на тым, каб войны, якія вядуцца паміж групамі капіталістых, ператварыць у грамадзянскія войны».

Выснаў для нашых дзён відавочны. Камуністыя сьведама дапамагаюць у распальваньні вайны на Блізкім Усходзе, бо спадзяюцца ператварыць яе ў вайну зь перамогай камуністых. Так спэкуляваў у 1939 годзе Сталін, заключаючы пакт зь Гітлерам, і так спэкулюе ў 1956 годзе Хрушчоў, робячы пакт у справе дастаўкі зброі для Нассэра. На справе няма ў сьвеце большай брахні, як гутаркі камуністых пра іхнае жаданьне міру.

# Пасьля юбілею...

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

4) Гэта праціўнікі БНР. Сярод іх бальшыня бачыць у думках усе пазытыўныя бакі газэты, як і нэгатыўныя, але навонкі прызнаць гэта не пазваляе ім іхнае «партыйнае» сумленьне. І дзеля таго у іхных выказваньнях мы нічога больш не пачуем, як старыя, з часоў лягерных, пашквільныя ноты. Гэтых «крытыкаў» час і эвалюцыя не кранаюць.

Мы ведаем, што «Б-на» не ідэальная: апрача плюсаў, як і кажная газэта, яна мае й мінусы. Але, як бачым з вышэйшага, тыя, што нас крытыкуюць, вельмі мала маюць супольнага з праўдзівай крытыкай. Супаставіўшы асноўныя цьверджаньні нашых крытыкаў і «крытыкаў», «Б-на» мае наступныя эпітэты: «пракаталіцкая, «антыкаталіцкая», «праправаслаўная», «антыправаслаўная», «езуіцкая», «вуніяцкая», «антывуніяцкая», «антырэлігійная», «прапольская», «прарасейская». «прасавецкая», «праўкраінская», «антынезалежніцкая», «непрадрашэнская» й г.д. Усё гэта, як бачым, сьветчыць не аб «Б-не», але аб узроўні беларускае эміграцыйнае крытыкі. Але так, як «анты-» і «пра-» лягічна выключаюць сябе ўзаемна, дык «Б-на» й надалей будзе йсьці сваім шляхам, шляхам годным воргана Беларускае Незалежніцкае Думкі.

ЛЮІЗ дэ ВООЛЬ

# СЭНЭКА І КАСІЮС

«І вось сталася вялікае трасеньне зямлі: бо Ангел Гасподні, зыйшоўшы зь неба, прыступіўшы, адваліў камень ад дзьвераў магілы і сядзеў на ім. Хрыстос уваскрос. Яго няма тут»... (Матэуш, 28, 2, 6.

«Прыйшоўшы-ж да Ісуса, як убачылі, што Ён памёр ужо, дык ня перабівалі ў Яго галеняў; толькі адзін з жаўнераў прабіў Яму бок ланцаю, і ўраз-жа пацякла крсў і вада. Той, хто бачыў, пасьветчыў, і сьвядоцтва яго праўдзівае». (Іоан, 19, 33-35),

Сэнэка і ягоны госьць перайшлі у невялічкі, із смакам уладжаны пакой. Сьцены гэтага пакою былі вылажаны панцырамі чарапахі, пэрсыдзкі каберац быў нязвычайнага хараства і меў мядовы колер, цытрусовы стол быў рэдкай цэннасьцяй, а мырэнская ваза на ім зіхацела ад дарагіх каменьняў. Шляхотнай формы карынцкая бронзавая вісячая лямпа разьлівала лагоднае сьвятло.

— Тут будзе нам выгадней беседаваць, як у трыклініюм, — сказаў усьміхаючыся гаспадар. — І тут ніхто ня будзе чуць нашай гутаркі. Тут будзе дастатковым для абслугі аднаго Гімпсаля.

Ён паказаў на маладога нявольніка бранзовай хварбы, які быў апрануты толькі ў кароткую шкарлятна-чырвоную туніку.

— Як бачна, ты яму давяраеш, — заўважыў ветліва госьць.

Я не такі наіўны, каб гэта пацьвердзіць, — сказаў Сэнэка. — Але Гімпсаль прынамся ня можа зрадзіць таго, што ён чуе. Ягоны ранейшы гаспадар выразаў яму язык. Я таму мог яго танна купіць. Налі нам, Гімпсаль. Яму дваццаць восем гадоў і ён надзвычайны атлет, прыяцелю Касіюс. Я яго спэцыяльна дзеля гэтае мэты і выбраў. Гэта-ж ужо мінула дваццаць восем гадоў, як я цябе бачыў апошні раз. Тады ты меў дваццаць гадоў — і якраз ішоў у армію. Як бачна, служба пайшла табе на карысьць. Ты выглядаеш сапраўды як Бог вайны.

— Я ўжо доўгі час ня ў арміі. — адказаў Касіюс. — Ад... ды ўсё гэта якраз і залежыць ад таго, што й прывяло мяне да цябе.

— Ты патрабуеш службу? Працу? Я ахвотна...

— Не, не, Сэнэка. Я ня прыйшоў з гэтым, каб атрымаць ад цябе падарунак, але я прыйшоў, каб падарыць.

—Я маю ўжо шэсьцьдзесят гадоў, усьміхнуўся гаспадар. Гэтая жменя валасоў, якая мне засталася, ужо зусім белая. Гэта зусім цяжка зрабіць мне падарак, дружа. Старасьць робіць непатрабуючым.

Цяпер усьміхнуўся і госьць. Непатрабуючы, скромны Сэнэка быў мільянэр. Ён меў собскія капальні ў Брытаніі, гандлёвыя прадпрыемствы ў шматлікіх гарадох Італіі, гандлёвыя фірмы і вялікія нярухомыя маемасьці ў Сыцыліі. Меў з паўтузіна дамоў і каля тысячы нявольнікаў. Пры імпэратарскім двары ён займаў найвышэйшыя становішчы і аб ім гаварылася, як аб будучым першым міністры. Расцэньваючы яго духова, ён меў выдатны розум першае рангі, быў ачытаны, як ніхто другі, і лічыўся вядучым філязофам таго часу.

— Сэнэка, калі я бачыў цябе апошні раз, ты зрабіў мне падарак. Ты мне расказаў аб сямі стадыях каханьня...

— Ты памятаеш гэта яшчэ й сяньня?

— Я дакажу табе гэта. Ты казаў — любоў ёсьць нахіла да нечага, што прыцягвае. Навет голы камень здольны кахаць. Я бяру яго на руку, і ён націскае на яе моцна, бо яго цягне зямля, ягоная матка. Гэта ёсьць першая стадыя каханьня.

Сэнэка кіўнуў галавою, але ня было ясным, што гэта мела абазначаць: ці зьдзіўленьне, ці толькі вясёлае зацікаўленьне.

— Другая стадыя —гэта самазахаваньне чалавека, — гаварыў Касіюс.

—Гэта любоў да сябе самога да свайго «я». Трэйцяя стадыя — любоў да свайго роду і гэтым самым жаданьне яго захаваць. Адсюль інстынкт размнажаньня і любоў пачуцьцёвая паміж самцам і самічкай. Чацьвертая стадыя ёсьць любоўю да прыгожага — эстэтызм. Гэту любоў мы знаходзім і ў жывёлаў. Самчык-паў таксама ганарыцца сваім раскошным хвастом, распушчаючы яго, як і іншыя жывёлы: кот, ягнё, конь, якія цешуцца з прыгажосьці свайго цела і выгляду.

Ізноў кіўнуў галавою, патакваючы Сэнэка, — ты маеш вельмі добрую памяць, мой Касіюс.

— У пятай стадыі каханьня пачынаецца валадарства духа, — гаворыць Касіюс. Гэта ёсьць любоў да філязофіі, да абстрактнага думаньня, сьвет досьледаў. І ёсьць шмат такіх, якія гэтае шуканьне ставяць вышэй ад самых вынаходкаў, бо знойдзенае ёсьць канцом шуканьня, якое яны кахаюць. Далей ідзе стадыя шостая: любоў чалавека да чалавека. Тут мы маем ня толькі каханка і каханку, але таксама і філянтропаў і ўсіх тых, што дбаюць і працуюць над лёсам і дабрабытам бліжняга. І ўканцы прыходзім да стадыі сёмай...

— Апошняй і найважнейшай, — дадае Сэнэка. — Ужо Плятон гаварыў аб гэтым, што ў чалавеку ёсьць нейкая сіла, якая тужыць за рэчамі выхадзячымі паза граніцы натуральнага ў бесканечнасьць. І чым старэйшым становіцца чалавек, тым ясьней чуе ён той нутраны голас, які падказвае яму, што багі несьмяротныя вымагаюць ад чалавека шмат болей. І мы прабуем тады іх, якія пагарджаюць намі за нашыя недахопы і брак волі, перапрасіць. Рознымі спосабамі мы прабуем гэта зрабіць: мы шукаем у вантробах курэй, і нырках ягняці тых прыкметаў, тых знакаў іхняе волі. Мы прабуем навет іх падкупіць грашыма, кветкамі, фруктамі, ахвярамі жывёлаў — коратка кажучы, мы захоўваемся як ненармальныя, але гэта і ёсьць правільным і добрым, бо якраз кахаючы ёсьць здольным для таго, каго любіць рабіць зусім лёгкадумныя і неразумныя паступкі.

— Так, Сэнэка, — гэта самае гаварыў ты мне тады, і я быў глыбака гэтым пераняты.

— Ты быў, — паўтарыў Сэнэка, — значыцца цяпер ты ня ёсьць болей?

— Так, гэта ўсё праўда, — адказаў Касіюс. — Але гэта яшчэ ня ўсё, не апошняе і не найважнейшае. Сяньня я ўжо гэта ведаю, што каханьне мае ня сем, а восем стадыяў. І я прыношу вось табе гэтае найважнейшае і апошняе, восьмую стадыю любові, як падарак.

Сэнэка патрос недаверчыва галавой. — Што гэта? — пытае ён ціха. — Што можа быць, чаго не заўважыў Плятон?

— Плятон гэтага не недагледзіў, ён проста гэтага ня перажыў, заўважыў Касіюс.

— А ты — ты перажыў!

— Так, — адказаў проста Касіюс.

Нейкую хвіліну абодвы маўчалі. Выдалікачаная рука Сэнэкі забаўлялася кяліхам да віна. — Што гэта можа быць? Касіюс Лёнгінус ня быў вучоным філязофам — ціж-бы ён вучыўся ў міжчасе? Не, гэта не адказвае ягонаму характару. Ды ён і не гаварыў аб студыях, а аб перажытым...

— Гэта было ў Юдэі, — пачаў Касіюс ціха. Дваццаць чатыры гады таму. Тады я яшчэ быў ахвіцэрам і належаў да Ерузалімскага гарнізону.

Юдэя, думаў Сэнэка. Значыцца ня Эгіпт, краіна глыбокіх тайніцаў, не Малая Азія, напрыклад Эфэз, дзе ў рытуале Кібэле магла быць захаваная містычная праўда.

— Прыяцелю, што ты мог наагул прынесьці зь Юдэі?

— Аднойчы сьвяткавалі Жыды адно з сваіх вялікіх сьвятаў — гаварыў Касіюс. — Дзесяткі тысяч палатак і розных будак акружылі места, якое для іх ёсьць сьвятым, бо там стаіць іх галоўная сьвятыня... Дзіўны народ, Сэнэка, старадаўні народ. Навет дзеці глядзяць на сьвет сваімі тысячагадовымі вачамі. І пабожны народ, Сэнэка. Больш за мільён пілігрымаў прыбыло на сьвята. Сьвятары загадалі арыштаваць у той час аднаго чалавека, які прапаведваў новую навуку.

— Ён мусіў добра прапаведваць, — засьмяяўся Сэнэка.

— Яны называлі яго багахульнікам і асудзілі яго на сьмерць. Але права на жыцьцё і сьмерць ляжала ў нашых, а ня ў іхных руках. Яны таму і завялі яго да пракурора.

— Дваццаць чатыры гады таму, гаворыш ты. У той час мусіў там быць Понтыюс Пілатус. Я яго ведаў толькі пабежна. Гадоў таму з дваццаць ён памёр — у Галіі, на выгнаньні.

— Так, гэта быў ён, цьвёрды чалавек

# Зь беларускага жыцьця

### БАПЦ І ЗБК У ТОРОНТО

8 красавіка сёлета ў сьвятліцы ЗБК ў Торонто а. Мацукевіч зрабіў даклад на тэму «Структура Праваслаўнае Царквы». Тэма выклікала вялікае зацікаўленьне ў шматлікіх прысутных. Пажадана было-б, каб даклады на тэмы, зьвязаныя з рэлігіяй і БАПЦ адбываліся часьцей, тым больш, што шмат суродзічаў, якія наведваюць сьвятліцу ЗБК увечары, амаль кажнае нядзелі ніколі ня прыходзяць у царкву.

☆

Зь ініцыятывы Ўправы ЗБК, у сыботу 22 красавіка, у сьвятліцы Беларускага Дому пачаўся шахматны турнір. У ім прыймае ўдзел 6 сяброў. Патрывае ён да шасьці тыдняў, бо гульні могуць адбывацца толькі ў сыботы й нядзелі вечарамі.

**М. К-р**

### РЭХА САКАВІКОВАЕ ГАДАВІНЫ

**Ноттынгам (Ангельшчына)**

У Ноттынгам жыве некалькі беларускіх сем'яў. Сёлета 1-га красавіка супольнымі сіламі была наладжана Сакавіковая Акадэмія. Праграма абыходу сьвяткаваньня пачалася Паніхідай па загінутых змагарох, якую адслужыў а. Мірановіч.

Урачыстую акадэмію адкрыў сп. Капач. Сп Б. Я. прачытаў рэфэрат, аб значэньні Сакавіковага Акту ў нашай гісторыі.

Мастацкая частка акадэміі, падрыхтованая сп-ром Капачом, пачалася вершам «Не пагаснуць зоркі ў Небе» прадэклямаваным 10-гадовым Аляксеем Несьцяровам. Пасьля нашая моладзь адсьпявала песьні «Пагоня», «Бывай, мой родны кут і зьвяз», «Падняты родны сьцяг дзяржавы», пераплеценыя дэклямацыямі вершаў.

Сп. Капач выкарыстоўваючы адпаведны мамэнт, зьвярнуўся да прысутных з кароткай прамовай, у якой зьвярнуў увагу на важнасьць навучаньня дзяцей у сваёй роднай мове, што ў вялікай меры могуць аблегчыць беларускія кніжкі выдавецтва «Бацькаўшчыны». Сп. Карась падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі аб газэце «Б-на», зазначаючы, што яна зьяўляецца для яго важнай духовай падтрымкай.

Канчаючы гэтую зацемку, нельга ня выказаць удзячнасьці сп-ру Капачу, дзякуючы актыўнасьці й ахвярнасьці якога, у Ноттынгам ужо трэйці раз сёлета ладзіцца беларуская акадэмія. Акрамя гэтага, сп .Капач, ня гледзячы на цяжкасьці із здароўем, узяўся вучыць беларускіх дзетак роднае мовы. Цяпер нашая моладзь стараецца прыдбаць сабе нацыянальныя строі ды вывучаць свае народныя скокі. Шчырую ахвоту ў грамадзкай працы выказвае таксама й сп. Карась.

За апошні год нас наведалі тут нашы студэнты зь іншых краінаў як і іншыя нашы суродзічы. Спадзяемся, што з дапамогаю Ўсемагутнага Бога мы й на будучыню застанемся цеснай беларускай сям'ёй.

### ПРЫЕМНАЯ СУСТРЭЧА

У пачатку красавіка сёлета беларуская калёнія ў Мюнхэне мела прыемнасьць сустрэць нашага суродзіча з-за акіяну, дакладней кажучы — із Задзіночаных Штатаў, д-ра А. Вярбіцкага. Гэтая сустрэча выявілася ня толькі прыемнай, але й патрэбнай. Беларусы Мюнхэну мелі нагоду зь першых вуснаў паінфармавацца аб грамадзкай працы й умовах жыцьця нашых суродзічаў у Амэрыцы. З свайго боку, др Вярбіцкі, які зьяўляецца заступнікам старшыні БАЗА, меў магчымасьць бліжэй азнаёміцца з абставінамі беларускага грамадзкага жыцьця, асабліва — з палажэньнем Беларускага Нацыянальнага Камітэту, а таксама пабачыць умовы і канкрэтныя вынікі працы Выдавецтва «Бацькаўшчына», беларускіх сэкцыяў Інстытуту Вывучэньня СССР ды радыя «Вызваленьне». Сустрэча гэтая давяла, што тэткія кантакты шмат дапамагаюць узаемнаму зразуменьню нашых грамадзкіх і палітычных праблемаў, а таксама правільнай ацэне праробліванай працы.

Др. А. Вярбіцкі наведае таксама Бэльгію й Францыю, дзе сустрэнецца з прадстаўнікамі нашых грамадзкіх арганізацыяў у гэтых краінах. Спадзяемся, што пасьля заканьчэньня свайго падарожжа, др. Вярбіцкі падзеліцца сваімі ўражаньнямі з шырэйшымі коламі нашае эміграцыі.

**У. С. Я. З.**

### ДА ЎСІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ А ПРАДАЎНІКОЎ БЕЛАРУСКІХ КНІЖАК І ЧАСАПІСАЎ

Дазнаньне паказала, што канешне трэба выдаць каталёг прадаваных на чужыне беларускіх кніжак і часапісаў эміграцыйнага й краёвага выданьня. Выдаць мае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью Ёрку. Дзеля таго зварочваюся да ўсіх Выдавецтваў і Прадаўнікоў беларускіх кніжак і часапісаў прыслаць мне — найпазьней да I-га ліпеня сёлета — сьпісаньне сваіх (значыцць, якія ў каго ёсьць на продаж) беларускіх кніжак і часапісаў, падаўшы аўтара, назоў кніжкі або часапісу, колькасьць бачынаў, цану й адрас, скуль можна выпісваць.

**Др. Я. Станкевіч,** рэфэрэнт культуры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Адрас:

J. Stankievič, 6 Vandervoort Place
Brooklyn 37, NEW YORK, USA.

# „Расея – сусьветная небясьпека...

**(Заканчэньне з 2-ай бачыны)**

I, лягальна і згодна з 17 арт. савецкае канстытуцыі кажная савецкая рэспубліка мае свабоднае права выхаду з Саюзу ў кажны час. Чаму-ж нам не пачаць з гэтага пункту?

«Хрушчоў даводзіць, у прамовах, што Расея ніколі ня імкнулася накінуць сваю сыстэму ўлады ці дамінацыю якому-небудзь іншаму народу. Гэта бессаромная нагласьць. Ніводзін інтэлігентны чалавек, які студыяваў гэтыя справы, не паверыць, каб якая-небудзь краіна, што знаходзіцца цяпер пад Расеяй, згадзілася дабравольна на ўваход туды; ніводная зь іх гэтага не зрабіла, і гэта адносіцца ня толькі да краінаў, апанаваных беспасярэдня ці пасярэдня ад 1939 г., але да ўсіх краінаў, анэксаваных Маскоўцамі ад пачатку іхнае гісторыі. Расея была агрэсыўнай сілай увесь гэты час, забіраючы меншыя краіны, як князь Чартарыскі казаў, хвальшам і гвалтам, і, як казаў маркіз Дэ Кюстын, ужываючы гэтыя заваёвы да вядзеньня далейшых падбояў. Так доўга, як Расея мае кантролю над якой-небудзь суседняй краінай, яна будзе загрозай сьвету, якой яна зрэшты і заўсёды была. Адзін ратунак — гэта зрабіць так, каб яна супадала з сваімі этнаграфічнымі межамі...»

«Бязь іншай сусьветнай вайны, якой ніхто на Захадзе ня хоча, не магчыма бачыць, як марш Расеі на заваёву сьвету можа быць стрыманы на заўсёды, калі ня лічыць магчымасьці нутранога распаду Савецкага Саюзу, а гэта ня можа быць зроблена бяз удзелу самых прыгнечаных народаў...»

«Гэтыя мільёны паняволеных народаў чакалі ад Захаду дапамогі ці хаця-б сымпатыі ў іхным змаганьні за свабоду. Яны ў вялікай ступені згубілі веру, асабліва пасьля апошніх трох Жэнэваў, і мы мусім здабыць іхны давер ізноў, калі хочам міру. Аднак, наадварот, Сэр Ідэн зрабіў усё каб забіць рэшткі гэтага даверу сваімі нефартуннымі і незразумелымі запросінамі ў гэтую краіну (Ангельшчыну), як гасьцей ураду, Хрушчова і Булганіна, на якіх прыгнечаныя народы глядзяць як на сваіх найгоршых і найбольш дзікіх прыгнятальнікаў, паняволынікаў і забойцаў...»

«Наша сіла ляжыць у ватрыманьні поўнага даверу і супрацоўніцтва тысячаў мільёнаў, што цяпер знаходзяцца пад ботам Масквы, якія не займаюцца тэорыямі, але затое ведаюць з практыкі і трагічнага дасьветчаньня, што азначае расейская ўлада. У здабыцьці бясьпекі іхных краінаў ляжыць наша бясьпечнасьць і ўсяго сьвету, і гэта не азначае толькі краінаў, якія падпалі пад расейскую дамінацыю за колькі апошніх гадоў, але на працягу ўсяе гісторыі; яны ўсе мелі стагодзьдзі дасьветчаньня ў кіраваньні самімі сабою і навет пасьля стагодзьдзяў іхныя традыцыі свабоды й незалежнасьці захаваліся. Гэта гэтыя народы зьяўляюцца нашай адзінай сілай, і гэта іх Расея баіцца. Толькі дапамога народаў, якія цярпелі пад расейскай тыраніяй, можа скласьці разам з намі сілу, якая зможа пакончыць, магчыма назаўсёды, з найбольшым злом, якое толькі бачыў гэты няшчасны сьвет.»

***Прышлі безадкладна падпіску на «Бацькаўшчыну» й заахвоць зрабіць гэта сваіх прыяцеляў і знаёмых!***

**ФЭЛЬЕТОН**

# ПАСЬЛЯ ЛЕКЦЫІ...

**(«Зьвязда», 4. 3. 56)**

**Ад Рэдакцыі «Бацькаўшчына»**

Мы маем вельмі скупыя прэсавыя весткі аб рэлігійным жыцьці на Беларусі. Цяжка што-небудзь канкрэтнага вылавіць і з даволі інтэнсыўнай антырэлігійнай прапаганды, якая найчасьцей абмяжоўваецца да абразьлівых пашквіляў або агульнага мудрагельства аб матарыялістычным сьветаглядзе.

Пераглядаючы савецкую прэсу, і чытаючы там наганяі ды вострую крытыку самых розных галін савецкага быту, ствараецца ўражаньне, што бальшавіцкая прэса асабліва ня любіць закранаць канкрэтных праблемаў рэлігійнага жыцьця на Беларусі. Прычыны гэтага зьявішча могуць быць самыя розныя. Адна зь іх — гэта тое, што ўсе прапагандовыя спробы антырэлігійных нападак разьбіваюцца аб цьвярдзіню векавых хрысьціянскіх традыцыяў нашага народу. Бальшавіцкія прапагандыстыя ня маюць ніякіх аргумэнтаў дзеля вядзеньня эфэктыўнае атэістычнае акцыі, і нярэдка яны самі аб гэтым добра ведаюць. Антырэлігійныя лекцыі зводзяцца, такім чынам, да прыкрых фармальнасьцяў, як для прымусовых слухачоў, так і для самых лектараў.

Ніжэй мы перадрукоўваем адзін зь вельмі рэдкіх фэльетонаў, што закранае праблему антырэлігійнае прапаганды на Беларусі. Зь яго якраз найлепш і відаць уся безнадзейнасьць бальшавіцкага бязбожжа ў ягоных прапагандовых намаганьнях. Тут, між іншага, зварочваем увагу на адзін мамэнт: аўтар фэльетону Шашкоў абразьліва называе сьвятара «сьвятым айцом» (у двукосьсі), аднак мы не заўважваем такіх адносінаў да сьвятара з боку апісаных ім асобаў, — для іх ён застаецца «бацюшкам» або «айцом».

☆

«Прасторная заля хаты-чытальні перапоўнена. Ідзе лекцыя аб паходжаньні рэлігіі й рэлігійных забабонаў. Чытае яе сам старшыня Жыровіцкага сельсавету, сакратар тэрытарыяльнай партарганізацыі Іван Іванавіч Круцілін (!).

Паблісквающы вачыма ён пытаецца, зьвяртаючыся да аўдыторыі:

— Таварышы, што такое рэлігія? — і, не чакаючы адказу, усклікае: — Рэлігія — гэта дурман. Так, таварышы, дурман, які эксплятататарскія клясы здолелі паставіць сабе на службу і пры дапамозе якога яны адурманьвалі прастакоў і малаадукаваных людзей. У нашай краіне няма эксплятататарскіх клясаў і, здавалася-б, няма той глебы, на якой можа працьвітаць гэты дурман. Але, таварышы, ня трэба забывацца, што гэты дурман — жывучы, ён вельмі моцна ўрос у сьвядомасьць некаторых адсталых, але...

— Іван Іванавіч, ці ня час нам? — раптам даляцеў да стала шэпт. — Зачакаліся, мусіць, нас... Госьці даўно сабраліся на хрэсьбіны. А ты-ж хросны бацька.

Лектар на імгненьне адарваўся ад канспэкту і, убачыўшы агента нарыхтовак Ярашэнку, здагадліва кіўнуў галавой:

— Скарачаюся... Дык на чым гэта я спыніўся? — зноў павярнуўся Іван Іванавіч да аўдыторыі. — Ага, на несьвядомых элемэнтах. Шмат хто з вас, таварышы, — ня крыўдуйце за маю шчырасьць, — хрысьцяць дзяцей, сьвяткуюць розныя рэлігійныя сьвяты. Каб ня быць галаслоўным, я магу прывесьці дзесяткі прозьвішчаў.

І Іван Іванавіч з абурэньнем у голасе пачаў пералічваць тых, хто яшчэ ня вызваліўся ад перажыткаў мінулага. Той-сёй ахрысьціў сваё дзіцё, другі ў Іванаў ці Пятроў дзень ня выйшаў на працу, трэці быў хросным бацькам і г. д.

— Карацей кажучы, таварышы, выпісвайце часапісы і чытайце іх. Я скончыў.

Калі заля апусьцела, да Івана Іванавіча падыйшоў Ярашэнка.

— Што ты сабе думаеш, Іван Іванавіч? — раздражнёна загаварыў ён. — Дома нас чакаюць. Ды і бацюшка, глядзі, ужо гневаецца.

— Я ўмомант, — пасьпешна складваючы канспэкты, апраўдваўся Іван Іванавіч. — Яшчэ пасьпеем...

— Прайшла гадзіна, а мо й крыху больш, і Іван Іванавіч непазнавальна зьмяніўся. О, цяпер ён ужо ніколі ня быў падобны да ўпэўненага ў сваёй рацыі й справе прапагандыстага. Абняўшыся із «сьвятым айцом», ён п'яна гугнявіў

— Я твой памочнік, а значыцца мы — сваякі. Дык вып'ем!

— Вып'ем, Іван Іванавіч, — бяручы ў рукі шклянку, усьміхнуўся той. — Хоць ты і чытаеш там нейкія лекцыі...

— Ня крыўдуй, айцец! Служба. У цябе служба і ў мяне служба. Чаго нам спрачацца? Хто хросны бацька? Я! Вып'ем!

Позна ноччу, беспасьпяхова стараючыся трапіць у рукавы пальто, Іван Іванавіч, заікаючыся, гаварыў:

— К... крыху лішняе перахапіў. А... а заўтра зноў... таго... лекцыю чытаць аб... аб паходжаньні... ч-чалавека...

**А. Шашкоў**

**Берасьцейскі раён».**

# Сэнэка і Касіюс

**(Заканчэньне з 3-яй бач.)**

навет, калі-б нехта зь іх і меў посьпех, як добры прамоўца, што нам заўсёды імпануе — як доўга трываў-бы гэты посьпех? Гэта жыдоўская справа. А гэта значыць, што яна ня мае нічога супольнага з мастацтвам у якой-колечы форме. З усіх народаў сьвету Жыды зьяўляюцца адзіным народам, у якога забаронена прадстаўляць Бога выразна. Яны таму ня маюць ніякіх статуяў, ні малявідлаў, а навет статуі і карціны зьяўляюцца для іх нечым жудасным. Як можа тады такая навука калі-небудзь даць натхненьне мастаку або разьбяру? Як можа тады ў чэсьць гэтага самага Хрыста быць пабудавана калі-небудзь якая-небудзь сьвятыня, памінаючы ўжо зусім нейкі новы стыль у будаваньні. Жыдоўскай архітэктуры няма. Жыды амузычныя, прыяцелю. А ня ведаючы музаў, ніяк нельга прывабіць чалавека на вуліцы.

— Ён устаў зь мёртвых, настойваў Касіюс. — І ён сам называў сябе Сынам Божым. Немагчыма так проста ня лічыцца з рэчаіснасьцяй. Ты ня верыш мне, аб чым я расказаў табе, Сэнэка?

— Я ня маю ніякай падставы сумлявацца ў тваей шчырасьці, — адказаў Сэнэка. — Але я не зьяўляюся да такой ступені неразумным, каб цьвердзіць, што гэтае здарэньне ня мела месца таму, што да гэтага часу чагось падобнага не здаралася. Кажнае здарэньне мае свой пачатак. Могуць існаваць такія сілы, аб якіх мы, людзі, яшчэ нічога ня ведаем, а аб каторых гэны Хрыстос магчыма нешта ведаў... Так, магчыма ён ёсьць істота вышэйшай натуры — паўбог, або і Бог. Можа і запраўды здабудзе ён сабе пару прыхільнікаў і тут у Рыме — шмат чужаземных Багоў маюць тут свае скупішчы: Ізіс, Сэрапіс, Мітрас, як мне ведама. Справа ня ў тым, што будзе адным аб'яднаньнем больш або менш. Але ўсё-ж залаты век ня прыдзе зь Юдэі.

Сэнэка падняўся. — І хачу табе найвастрэй запярэчыць. Я адкідаю твайго Бога ня толькі таму, што ён заманіфэставаў сябе ня ў Рыме, а ў ваднэй нязначнай маленькай правінцыі нашай дзяржавы. Не таму, што ён ёсьць Жыд, а ня Рымлянін. Я адкідаю яго таму, што ён ёсьць Бог. Бо калі мы хочам быць нечым больш, чымся бездапаможныя жывёлы, мы мусім самі сабе дапамагчы, мы людзі. Той, хто прынясе нам залатую пару, павінен быць чалавекам.

— Аляксандар і Цэзар на гэтым праваліліся, — заўважыў Касіюс.

— Яны абодвы памерлі зарана, каб давесьці да канца пачатую сваю справу. І яны былі перадусім ваенныя заваёўнікі. Чалавек будучыні павінен быць міралюбным. І я веру, я веру — ён ужо ёсьць паміж намі. Я чуў нейчыя крокі — Гімпсаль, паглядзі, мо гэта прыйшоў пасланец.

Нявольнік зьнік.

Касіюс устаў таксама. — Так, чалавек, Сэнэка. Але ня толькі чалавек. Бяз Божай дапамогі зьяўляецца немагчымай перамога над людзкою натураю. Яна ёсьць пунктам Архімэда, бяз ..., — ён перарваў. Гімпсаль вярнуўся зь лістом у руках. Сэнэка вырваў яго зь ягоных рук.

— Ты дазволіш, прыяцелю...

Касіюс моўчкі пакланіўся.

Сэнэка разламаў пячатку, раскрыў ліст і чытаў. Пальцы яго дрыжэлі.

— Гімпсаль — маё пальто, мае насілкі і дваццаць нявольнікаў.

Нявольнік выбег.

Сэнэка праменяваў. — Даруй мне, дружа, але я мушу ісьці.

— Было вельмі прыемна з твайго боку прысьвяціць мне цэлы вечар, — сказаў Касіюс.

— Зусім не, — нічога, я не хацеў сяньня мець каля сябе шмат людзей, а таксама не хацеў заставацца і адзін. Я чакаў на гэтае паведамленьне. І ты прыемна скараціў мне чаканьне. І ты якраз выбраў адпаведную тэму дзеля гутаркі. Залатая пара ўжо тут, дружа. Цэзар памёр. А ягоны наступнік зьяўляецца самым шляхотным маладым чалавекам нашых часоў. Я больш ганаруся, што быў доўгія гады ягоным настаўнікам і выхаваўцам, чымся тым, што я калі напісаў. Я так добра ведаю яго, як толькі можна ведаць чалавека. Ён самай высокай інтэлігенцыі і здольнасьцяў, а ягоныя думкі накіраваныя толькі на карысьць і дабро дзяржавы, на карысьць імпэрыі... Ён не заваёўнік, як Александар ці Цэзар. Ён заваёўвае толькі штурмам людзкія сэрцы.

Цяжка дыхаючы ўстрымаўся Сэнэка. Вочы ягоныя сьвяціліся. — Малады філязоф, палымяны паклоньнік мастацтва на імпэратарскім пасадзе, — дадаў ён па хвіліне. — Уся ўлада зямлі ў руках самага шляхотнага і здольнага да энтузіязму маладога мужчыны з самым чыстым перакананьнем і розумам, які імкнецца толькі да дабра і прыгажосьці, да таго ідэалу, які ўжо сьвяціў старым Грэкам. А гэты ліст — гэта ягонае першае дзяржаўнае дзеяньне, — ён назначае мяне на найвышэйшае становішча, на найвышэйшага слугу. Мы не патрабуем ніякага Бога, Касіюс — залатая пара ўжо прыйшла.

— Я жадаю табе шчасьця, — сказаў Касіюс. — Ня мог-бы ты мне сказаць, хто ёсьць новым імпэратарам?

— Сын Люцыюса Доміціцыюса Агенабарбуса і найшляхэтнейшай Агрыпіны — наймудрэйшы, найздальнейшы і лепшы з маіх усіх вучняў. Нэрон...

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 33 Chigford St. Fairfield-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Ščečka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 112, rue d'Alger, Roubais (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**